# наша СВАБОДА

№64 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

6 КАСТРЫЧНІКА 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Акцыі пратэсту правядуць 22 гарады Беларусі

**8 кастрычніка у 22 гарадах Беларусі пройдуць акцыі аб'яднанай апазіцыі ў рамках кампаніі «Байкот-2000». Ужо ўсе гарады атрымалі адказ ад мясцовых уладаў: адны заяўкі былі задаволеныя, другія – не. Аднак акцыі, па словах арганізатараў, пройдуць, у любым выпадку. Там, дзе няма дазволу, будуць праведзеныя дазволеныя законам сустрэчы з выбаршчыкамі.**

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька паедзе на акцыю ў Гомель. Старшыня БНФ Вінцук Вячорка наведае Брэст. Нам.старшыні АГП Павел Данейка будзе ў Гродне. Дэпутат ВС Людміла Гразнова – у Віцебску. У астатніх гарадах таксама будуць прысутнічаць прадстаўнікі кіраўніцтва дэмакратычных партыяў і рухаў, а таксама члены тэхнічнай групы БДІПЧ-АБСЕ.

**Гродна.** 12.00. Мітынг у скверы за палацам культуры

**Слонім.** 12.00 Пікет на пл. Леніна

**Ліда.** 12.00. Сустрэча з выбаршчыкамі на пл. Леніна

**Брэст.** 12.00. Мітынг на стадыёне Будаўнікоў

**Баранавічы.** 12.00. Мітынг у парку 30-цігоддзя ВЛКСМ

**Пінск.** 16.00. Мітынг у гарадскім парку

**Жодзіна.** 13.00. Сустрэча з выбаршчыкамі каля універсама побач з рэчавым рынкам

**Барысаў.** 12.00. Сустрэча з выбаршчыкамі ў Старым горадзе, каля «Перамогі»

**Слуцк.** 11.00. Сустрэча з выбаршчыкамі на стадыёне цэнтральнага парку

**Салігорск.** 10.00. Мітынг на стадыёне «Будаўнік»

**Віцебск.** 12.00. Шэсце. Збор ля ратушы, у 13.00 мітынг на пл. Леніна

**Наваполацк.** 12.00. Мітынг у ДК будаўнікоў

**Орша.** 16.00. Сустрэча з выбаршчыкамі каля цэнтральнага ўваходу ў гарадскі парк

**Магілёў.** 12.00. Сустрэча з выбаршчыкамі ў Камсамольскім скверы.

**Бабруйск.** 12.00. Сустрэча з выбаршчыкамі на пл. Перамогі

**Гомель.** 12.00. Мітынг каля ДК глухіх

**Мазыр.** 11.00. Сустрэча з выбаршчыкамі каля ДК МПЗ

**Рэчыца.** 12.00. Мітынг у парку нафтавікоў

**Светлагорск.** 12.00. Мітынг каля гарадскога цэнтра культуры

**Жлобін.** 12.00. Пікет на бульвары Металургаў каля ГУМа

**Рагачоў.** 12.00. Сустрэча з выбаршчыкамі каля Палаца культуры

# Югаславія на мяжы грамадзянскай вайны



Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Больш за 200.000 грамадзянаў Югаславіі сабраліся ўчора ў цэнтры Бялграда, каб дамагчыся адхілення ад улады цяперашняга прэзідэнта Слабадана Мілошавіча і прызнання новым кіраўніком краіны Ваіслава Каштуніцы.**

Да сённяшняга дня ўся гэтая інфармацыя можа ўжо састарэць – падзеі разгортваюцца вельмі хутка. На момант падпісання нумара ў друк у Бялградзе пачаліся бойкі паміж паліцыяй і дэманстрантамі. Паліцыя ўжывала слезацечны газ, вадамёты і дубінкі. Слабадан Мілошавіч апынуўся ў пастцы: яму трэба або сыходзіць, або развязваць сапраўдную грамадзянскую вайну. На ягоным баку пакуль войскі МУС, армія імкнецца захаваць нейтралітэт. «Калі Слабадан Мілошавіч не захацеў пайсці мірна, цяпер ён атрымае крывавую лазню», – заявіў адзін з лідэраў студэнцкага руху.

Учора ў 16.00 па беларускім часе скончыўся тэрмін ультыматуму, высунутага югаслаўскай апазіцыяй Слабадану Мілошавічу. Да гэтага часу ён мусіў скласці свае ўладныя паўнамоцтвы.

Удзень учора натоўпы грамадзянаў сабраліся ў цэнтры Бялграда, на бульвары караля Аляксандра. Дэманстранты акружылі будынак югаслаўскага парламента – Скупшчыны. Было прадпрынята некалькі спробаў штурмаваць будынак. У адказ паліцыя выкарыстала слезацечны газ і дубінкі.

Інфармацыйныя агенцтвы паведамілі, што паліцыя перакрыла пад'езды да Бялграда бетоннымі блокамі і грузавікамі. Аднак удзельнікі акцыі пратэсту здолелі расчысціць сабе шлях і праехаць у сталіцу. Толькі з горада Ніш у Бялград прыбыла калона з 20 аўтобусаў і 150 аўтамабіляў. Паліцыя прапусціла калону пасля перамоваў, праведзеных з лідэрамі апазіцыі. Таксама ў горад з'ехаліся дэманстранты з Враньё, Лескаваца, Субоціцы, Кікінды, Зрэн'яніна, Ранчава, Ужыцы, Чачака, Ложніцы, Сабача і іншых гарадоў.

Відавочцы падзеяў сцвярджаюць, што паліцыя праводзіла арышты апанентаў Мілошавіча. Улады глушаць апазіцыйныя радыёстанцыі, удзень учора перасталі працаваць мабільныя тэлефоны.

Увечары ў сераду Канстытуцыйны суд Югаславіі прыняў рашэннеануляваць вынікі прэзідэнцкіх выбараў 24 верасня. Старшыня КС Мілуціч Срдзіч паведаміў, што новыя выбары мусяць адбыцца пасля таго, як скончыцца тэрмін прэзідэнцтва Слабадана Мілошавіча, а гэта толькі ліпень 2001 года. Па словах М.Срдзіча, дарэчы, аднаго з бліжэйшых саратнікаў С.Мілошавіча, у новых выбарах змогуць узяць удзел не толькі Слабадан Мілошавіч і Ваіслаў Каштуніца, але і ўсе іншыя «жадаючыя».

Нягледзячы на тое, што Канстытуцыйны Суд намінальна выканаў патрабаванне апазіцыі і прызнаў вынікі выбараў несапраўднымі, фактычна ён гэтым толькі дапамог Слабадану Мілошавічу. Бо такім чынам ягоныя паўнамоцтвы працягваюцца амаль на год – а за гэты час ён можа разабрацца з усімі сваімі канкурэнтамі і праціўнікамі.

Чым скончыцца супрацьстаянне ў Бялградзе – невядома. Адзінае, што відавочна – Слабадан Мілошавіч ужо прайграў. ■

# У Віннікавай адабралі маёмасць

Алесь ПАЎЛОВІЧ

**Пра гэтую сенсацыйную навіну даведзся Сяргей Віннікаў, сын былой галоўнай банкіркі краіны, якая цяпер жыве ў Лондане. Сяргея выклікалі ў пракуратуру Беларусі, дзе паказалі яму падпісанае Аляксандрам Лукашэнкам распараджэнне аб канфіскацыі маёмасці, што належыць ягонай маці.**

Падставай для гэтага дакумента пазначаны дэкрэт А.Лукашэнкі №40, прыняты год таму. Ён дазваляе яшчэ да суда забіраць маёмасць на карысць дзяржавы ў асобаў, якія падазраюцца ў злачынствах. Дэкрэт не мае аналагаў у цывілізаваным свеце, дзе практыка пазасудовых пакаранняў лічыцца незаконнай і злачыннай. Аднак у сённяшняй Беларусі магчыма і такое дзікунства. Раней гэты дэкрэт выкарыстоўваўся супраць фірмаў «Конта-груп», цяпер чарга дайшла да лыжак і крэслаў, якія належаць былой старшыні Нацбанку.

Тамара Віннікава назвала канфіскацыю яе маёмасці «дзяржаўным рэкетам» і заявіла, што будзе з дапамогай адвакатаў дамагацца адмены гэтага рашэння. Дарэчы, распараджэнне пра канфіскацыю падпісанае яшчэ ў лістападзе мінулага года, а тое, што яно агалошанае толькі цяпер, Т.Віннікава звязвае з фінансавымі праблемамі рэжыму.

«Відаць, напярэдадні выбараў грошы спатрэбіліся, вось і пачалі канфіскоўваць асабістую маёмасць. Гэта ж так проста – абвесціць чалавека злодзеем і адабраць у яго кватэру. Як у 1937-ым годзе», – абураецца Тамара Віннікава.

Дакладны спіс канфіскаванай маёмасці яе сыну ў пракуратуры не паказалі, таму яна не можа сказаць, што дзяржава ў яе адабрала, апроч кватэры. Сваю кватэру на вуліцы Адзінцова ў Мінску спадарыня Віннікава ацэньвае прыкладна ў 50 тысяч долараў, ды яшчэ ў кватэры былі асабістыя рэчы, мэбля, карціны. Але самым каштоўным у сваёй маёмасці былая банкірка лічыць бібліятэку з рэдкіх кніг з галіны эканомікі, што збіраліся цягам дваццаці гадоў. ■

## НАВІНЫ

■ **У Берасці і Магілёве збіраюцца страйкаваць кіроўцы маршрутных таксовак.** Днямі ў навучальных установах Берасця з'явіліся ўлёткі пад назвай «Настаўнікам надакучыла». У іх гаворыцца, што педагогам абрыдла «быць патрэбнымі ўладам толькі перад выбарамі, надакучыла чуць у гэтыя дні, што мы самыя высокаадукаваныя і свядомыя людзі». У той час, калі настаўнікі маюць мізэрныя заробкі, у школах горада і раёна ў добраахвотна-прымусовым парадку ідзе збор сродкаў на дапамогу сем'ям загінуўшых на расійскай падлодцы «Курск».

■ **У Глыбокім адкрыўся помнік нямецкім салдатам, што загінулі тут у II Сусветную вайну.** Ён з'явіўся пасля таго, як пры рэканструкцыі мясцовага стадыёна былі адшуканыя, а потым перазахаваныя на тутэйшых могілках, парэшткі болей як 500 вайскоўцаў вермахта. Падчас усталявання помніка пасол Нямеччыны ў Беларусі Хорс Вінкельман папрасіў прабачэння ў беларускага народа за тую вайну.

■ **У Віцебскім краязнаўчым музеі зазнала цэнзуры фотавыстава «Віцебскі кур'ер» – хроніка газетнай паласы».** Аўтар экспазіцыі – галоўны рэдактар гэтай незалежнай газеты Уладзімір Базан – склаў экспазіцыю з фотаздымкаў, апублікаваных у ёй за апошнія 10 гадоў. Пасля 2 дзён працы выставы кіраўніцтва музея прыбрала адтуль фатаграфіі з выявай апазіцыйных дзеячаў, а таксама фрагменты з апазіцыйных акцыяў.

■ **Вёска Друцк, што на Віцебшчыне, у наступным годзе, адзначыць тысячагоддзе з дня заснавання. Урачыстасці пройдуць у чэрвені 2001 года.** Свята будзе ўяўляць сабой гістарычны спектакль на старажытным замчышчы і канцэрт. Мяркуецца таксама, што да юбілею ў вёсцы пабудуюць драўляную царкву і мемарыяльны знак у выглядзе аркі.

■ **Тры гатункі піва з маркай вядомага ААТ «Лідскі півварны завод» атрымалі «Залаты ордэн».** Гэта – вышэйшая ўзнагарода міжнароднай выставы «Піваіндустрыя-2000», якая праходзіла ў Маскве. Выстава знаёміла з прадукцыяй болей за 80 прадпрыемстваў Расіі, Беларусі, Украіны. Зараз Лідскі півзавод выпускае дваццаць пяць назваў любімага народам напою. Узнагароду атрымалі папулярныя «Стары замак», «Залаты Змей», «Спартак-чампіён».

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**1055**

## «Самародак» важыў 15 мільёнаў

**Міхал ЗАЛЕСКІ**

Прэс-цэнтар Дзяржаўнага камітэта па фінансавых расследаваннях паведаміў пра разгляд на калегіі выканання дэкрэта А.Лукашэнкі №15 «Пра неадкладныя захады па абароне спажывецкага рынку». Дэкрэт ваўсю працуе, а правапарушэнні растуць. Папераў на тавар у фірмах, дзе праходзяць праверкі, альбо не бывае, альбо тыя паперы несапраўдныя. Ведамасная статыстыка сведчыць, што 82% суб'ектаў гаспадарання парушаюць дэкрэт.

Жлобінскія КДБісты злавілі трох маскоўскіх рэкеціраў. Тыя хацелі адабраць у тамтэйшага чалавека 5 тысяч долараў, а каб ён хутчэй варушыўся, забралі аўтамабіль *Volkswagen*.

Супрацоўнікі ДКФР узбудзілі крымінальную справу ў адносінах да дырэктара ТАА «Самародак». Ягоная фірма гандлявала МАЗамі з Украінай без ліцэнзіі і недаплаціла дзяржаве 15 мільёнаў рублёў падатку. Увесь прыбытак «Самародка» пайшоў на карысць дзяржавы. ■

## Маладыя не хочуць вучыць

**Ірына ШАНЦАВА**

45 маладых педагогаў, якія закончылі ВНУ сёлета, — 4% выпускнікоў педагагічных спецыяльнасцяў — не прыбылі да месца сваёй работы ў Гомельскай вобласці без паважлівай прычыны. Такія звесткі прывёў начальнік упраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама Андрэй Лук'яновіч на прэс-канферэнцыі 3 кастрычніка.

Ён паведаміў, што раённыя аддзелы адукацыі звярнуліся ў пракуратуру з просьбай адшукаць гэтых педагогаў і прыцягнуць іх да адказнасці. Падставай для гэтага, паводле словаў начальніка ўпраўлення, з'яўляецца дзеючая ў Беларусі норма, згодна з якой выпускнікі ВНУ, якія не жадаюць адпрацоўваць на дзяржаўнай службе два гады, абавязаныя пакрыць бюджэту затрачаныя на навучанне сродкі. Урэшце, як адзначыў А.Лук'яновіч, такіх прэцэдэнтаў у вобласці пакуль не было. ■

БелаПАН

## «За заклік да байкоту»

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

На канец месяца па Беларусі ўжо было асуджана больш за дваццаць грамадзянаў па фармулёўцы «за заклік да байкоту», а яшчэ каля трыццаці чакалі суда ў бліжэйшыя два тыдні. Каля дваццаці чалавек было затрымана і адпушчана без складання пратакола, але ў іх былі адабраныя і знішчаныя агітацыйныя матэрыялы.

Сярод вядомых персонаў перад судом паўсталі дэпутатка Вярхоўнага Савета Людміла Гразнова, а ў вышуку за заклікі да байкоту знаходзяцца таксама старшыня Сацыял-дэмакратычнай Грамады Станіслаў Шушкевіч і старшыня БНФ Вінцук Вячорка. Усе яны «папаліся» падчас мітынгу на плошчы Бангалор 1 кастрычніка, калі ў сваіх прамовах заклікалі да байкоту выбараў. Суддзя Савецкага суда Іна Шэйко пакуль не вынесла ніякага рашэння па справе Гразновай, бо, па яе словах, «пакуль сумняваецца». Каля кватэраў С.Шушкевіча і В.Вячоркі рэгулярна дзяжураць міліцэйскія патрулі. ■

# Прафсаюзы рыхтуюць акцыі пратэсту

**Рыгор БУЯН**

Разліковыя рахункі Федэрацыі прафсаюзаў (ФПБ) і санаторна-курортнага аб'яднання «Белпрафсаюзкурорт», арыштаваныя 27-28 верасня, дагэтуль застаюцца замарожанымі: спыненыя ўсе фінансавыя аперацыі. Прафсаюзнае кіраўніцтва заяўляе, што інспекцыя Дзяржаўнага падатковага камітэта па Цэнтральным раёне Мінска «замарозіла» рахункі кіраўніцтва справамі ФПБ і Савета ФПБ беспадстаўна, каб сарваць запланаваны на 10-11 кастрычніка з'езд ФПБ. Палітыка на раскол прафсаюзнага руху працягваецца.

2 кастрычніка старшыня Федэрацыі Уладзімір Ганчарык абвясціў пра пачатак масавых акцыяў пратэсту прафсаюзаў. У.Ганчарык прама гаворыць, што за арыштам прафсаюзных рахункаў стаіць адміністрацыя прэзідэнта.

Старшыня прафсаюза АСМ Аляксандр Бухвостаў пацвердзіў чуткі, нібыта кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч збіраецца заняць крэсла У.Ганчарыка.

Бліжэйшая мэта прафсаюзаў – правесці з'езд. З вялікай доляй верагоднасці можна казаць, што старшынёўскае крэсла па-ранейшаму зойме Уладзімір Ганчарык. І дэлегаты будуць галасаваць не столькі за У.Ганчарыка, колькі супраць «чужакоў» у прафсаюзах. І толькі пасля з'езда, тыдні праз два, як гаворыць А.Бухвостаў, ФПБ плануе распачаць масавыя акцыі пратэсту. «Выступленні будуць мець комплексны характар — у абарону правоў прафсаюзаў, у абарону тых патрабаванняў, якія вылучылі прафсаюзы, за дэмакратыю, за разумную сацыяльную палітыку», — заявіў лідэр АСМ.

Пры жаданні прафсаюзы могуць узняць вялікую хвалю пратэсту. За плячыма кіраўніцтва ФПБ стаіць чатырохмільённае працоўнае насельніцтва Беларусі. ■

# Родныя палітвязняў на «Ілюзіі адлегласці»

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

Міжнародная фотавыстава «Ілюзіі адлегласці» адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі. Шведская фотамастачка Марыя Сёдэрберг выставіла фотапано, прысвечанае беларускім палітзняволеным, а дакладней — іх родным і дзецям. На ім змешчаныя не друкаваныя раней фотаздымкі родных Валерыя Шчукіна, Андрэя Клімава і Міхаіла Чыгіра, Міколы Статкевіча і Васіля Лявонава. Марыя Сёдэрберг была здзіўленая, што ёй дазволілі выставіць работу ў дзяржаўным музеі. ■



# У труне я бачыў тыя грошы!

## Падатковы інспектар патрабаваў 5.000 долараў ад прадпрымальніка

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Супрацоўнік падатковай інспекцыі аднаго з раёнаў Мінска быў затрыманы па падазрэнні ў вымаганні хабару ў памеры 5.000 долараў. Пра гэта паведаміла прэс-група ўпраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Мінску і Мінскай вобласці.**

Згодна з паведамленнем, 20 верасня супрацоўнікі КДБ разам з байцамі спецгрупы «Альфа» затрымалі ў краме «Рытуальныя паслугі» двух непрацуючых жыхароў Мінска, якія вымагалі ў аднаго беларускага прадпрымальніка 5.000 долараў.

Падчас папярэдняга разбіральніцтва высветлілася, што гэтыя сродкі затрыманыя вымагалі не для сябе, а для іншай асобы – падатковага інспектара. Інспектар днямі быў затрыманы і змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання КДБ. Супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 169 Крымінальнага кодэкса Беларусі – «Атрыманне хабару». Вядзецца следства.

Грошы, падрыхтаваныя для вымагальнікаў, былі знойдзеныя ў скрыні з інструментамі сярод трунаў, гатовых да продажу.

Супрацоўнікі КДБ паведамілі нам, што ахвяра вымагальнікаў не мае ніякага дачынення да самой крамы «Рытуальныя паслугі». На іх думку, крама выкарыстоўвалася ў якасці «перавалачнага пункта» для перадачы грошай. Яны дапусцілі таксама, што існавала пэўная дамоўленасць паміж «пасрэднікамі»-вымагальнікамі і гаспадаром магазіна аб магчымасці такога выкарыстання. ■

# Юлію Чыгір судзяць за міліцэйскае вуха

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

У Фрунзенскім судзе Мінска пачаўся працэс па справе жонкі экс-прэм'ера Юліі Чыгір. Яе судзяць за тое, што яна, абараняючыся ад нападу міліцыянта, пакусала яго за вуха. Цяпер гэты факт разглядаецца як доказ віноўнасці Ю.Чыгір. Ёй пагражае да пяці гадоў зняволення па абвінавачванні ў нанясенні траўмы міліцыянту і год за тое, што быццам бы перашкаджала міліцыі выконваць свае абавязкі.

Нагадаем, што падзеі, якія будзе аналізаваць суд, адбыліся ў траўні, у апошні дзень працэсу над экс-прэм'ерам Міхаілам Чыгірам. На агалошванне прысуду ў Мінскі гарадскі суд прыйшло шмат людзей, але не менш нагналі туды і міліцыянтаў, у тым ліку ў цывільных строях. Сваякам і сябрам экс-прэм'ера месцаў не хапіла. Юлія Чыгір, якая на працэсе выконвала абавязкі абаронцы, выйшла на ганак суда, каб угаварыць міліцыянтаў прапусціць сваякоў, і трапіла ў сапраўдную бойку – амапаўцы адцяснялі жадаючых патрапіць у залу суда. Дасталося і жонцы экс-прэм'ера. Яе ззаду схапіў адзін з міліцыянтаў, пачаў цягнуць у будынак. «Я паспрабавала вырваца, але паколькі мае рукі былі як у цісках, то я пусціла ў дзеянне адзінае, што застаецца ў такіх выпадках, – зубы. Хай яшчэ дзякуе, што мне трапіла вуха, а не нос ці што іншае,» – распавядала потым Юлія Чыгір.

Суд пачаўся і, паводле канфідэцыйнай інфармацыі, ужо ёсць загад зверху на асуджэнне Юліі Чыгір за пакусанне міліцэйскага вуха да грашовага штрафу і года папраўчых работ. Ці выканаюць суддзі гэты загад? ■

# Тэатральная эліта салідарызуецца з «Вольнай сцэнай»

**Кірэй МАНУЙЛА**

**Тэатральная беларуская грамадскасць адгукнулася на зварот акцёраў «Вольнай сцэны» да творчай інтэлігенцыі не заставацца ў баку ад таго, што робіцца з гэтым тэатрам.**

Старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дудараў, мастацкія кіраўнікі Тэатра юнага гледача, Купалаўскага і Горкаўскага тэатраў Андрэй Андросік, Валерый Раеўскі і Барыс Луцэнка, а таксама народны артыст Расціслаў Янкоўскі звярнуліся да міністра культуры Аляксандра Сасноўскага з просьбай аб аўдыенцыі дзеля абмеркавання канфлікту. Міністр хавацца ад тэатральнай эліты краіны не стаў, і ў сераду гэтая сустрэча адбылася.

Галоўны рэжысёр ТЮГа Андрэй Андросік распавёў, што рада Саюза тэатральных дзеячаў вымагае ад Аляксандра Сасноўскага «прыняць рашэнне, якое б змякчыла сітуацыю, галоўным чынам, маральную». Гэта значыць, мусіць з'явіцца «незалежная фігура па-над канфліктам». У адказ міністр культуры паабяцаў сустрэцца і з новым мастацкім кіраўніком «Вольнай сцэны» Валерыем Анісенкам, і з колішнім Валерыем Мазынскім, а таксама з трупай тэатра, а потым падумаць.

Што дасць гэты перамоўны працэс – паглядзім. Бо ёсць вялікі сумнеў, што ўсё залежыць менавіта ад спадара Сасноўскага, а не ад кагосьці вышэй ва ўладзе.

Тым часам салідарніцкі ліст артыстаў Гродзенскага абласнога тэатра ў падтрымку калегаў з «Вольнай сцэны» напароўся на абструкцыю ў абласным упраўленні культуры. Да ўсяго ў тэатральных колах кажуць, што па ўсіх тэатрах Беларусі аддадзены негалосны загад, у выпадку, калі вольнасцэнаўцы наважацца пакінуць Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, не браць іх на працу. ■

# Літоўская пракуратура Усхопчыку не ўказ

**Рыгор БУЯН**

**Колішні кіраўнік Вільнюскага вайскога гарнізона, цяпер намеснік міністра абароны Беларусі Уладзімір Усхопчык адмовіўся ехаць у пракуратуру суседняй Літвы.**

Прызначэнне У.Усхопчыка намеснікам міністра абароны Беларусі выклікала міжнародны скандал. Літоўская Феміда ўзбудзіла ў адносінах да генерал-лейтэнанта крымінальную справу за «ўдзел у забойствах 13 студзеня 1991 года». У ноч на 13 студзеня, камандуючы Вільнюскім гарнізонам Уладзімір Усхопчык кінуў танкі на штурм Вільнюскай тэлевежы ды Літоўскага радыё. У выніку прымянення сілы да ўдзельнікаў масавых выступленняў 13 чалавек загінулі, больш за 100 атрымалі цялесныя пашкоджанні. Менавіта крывавае падаўленне выступленняў за незалежнасць сталася прычынай крымінальнага пераследу У.Усхопчыка. У сярэдзіне траўня Аляксандр Лукашэнка прызначыў генерал-лейтэнанта намеснікам міністра абароны. Гэта выклікала надзвычай рэзкую рэакцыю як уладаў Літвы, так і грамадскасці, якая выказала намер праз Міжнародны суд у Гаазе дабівацца суда над «ваенным злачынцам».

Пачынаючы з 91-га года, літоўскія ўлады двойчы прасілі ўрад Беларусі выдаць Уладзіміра Усхопчыка, і двойчы атрымалі адмову. У чэрвені генеральны пракурор Літвы папрасіў беларускага калегу ўручыць Уладзіміру Усхопчыку судовую позву, каб той 2 кастрычніка да 9 раніцы з'явіўся ў пракуратуру Літвы для допыту. Натуральна, што гэтым днём чыноўнік правеў у Мінску і пакідаць яго межы і не збіраўся. ■

# Рабаўнікі «чайнакоў» затрыманыя

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**Мінская абласная міліцыя знайшла і затрымала банду зладзеяў, якія абрабавалі пасажыраў двух аўтобусаў, што ехалі з Мінска ў Маскву.**

Гэта было бадай самае гучнае злачынства жніўня. Тады адразу 63 чалавекі былі абрабаваныя, адзін паранены. Скрадзена грошай на некалькі дзесяткаў тысяч долараў. І ўсё гэта зрабілі за дваццаць хвілінаў пяцёра маладых мужчынаў, якія дагэтуль мірна ехалі разам з іншымі «чайнакамі» быццам бы на закупы ў Расію. Калі аўтобусы аддаліліся ад Мінска на 50 кіламетраў, зламыснікі раптам нацягнулі на твары чорныя шапкі з дзіркамі для вачэй, дасталі зброю і загадалі ўсім астатнім аддаць грошы. Супраціў пасажыраў быў спынены стрэламі па вокнах, а калі адзін з вадзіцеляў праявіў непадпарадкаванне, яго «выхавалі» куляй у нагу. Заключны момант бандыцкай аперацыі адбываўся блізу вёскі з сімвалічнай назвай Новае Жыццё. Там налётчыкаў чакала белая іншамарка, на якой усе пяцёра і з'ехалі ў шчаслівую, як ім здавалася, будучыню.

Веданне прыкметаў аўтамабіля дапамагло сышчыкам. Як і тое назіранне пацярпелых, што адзін са зладзеяў карыстаўся пэйджэрам, а ў другога рукі былі ў татуіроўках. Днямі банду «ілжэчайнакоў» злавілі. Усе пяцёра з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі, двое – жыхары Мінска. ■

# КДБ злавіў падрыўнікоў

**Ірына ШАНЦАВА**

**10 кілаграмаў тратылу канфіскаваны супрацоўнікамі КДБ па Гомельскай вобласці падчас аперацыі па папярэджанні тэрарыстычных актаў.**

Уладальнікамі ўзрывчаткі былі пяцёра гамяльчан, прычым ёсць падставы меркаваць, што яны стварылі групу і кожны выконвае сваю функцыю. Трое з іх затрымалі пры спробе збыць 3 кілаграмы выбуховага рэчыва — сыпучы тратыл — па цане 600 долараў ЗША за кілаграм. Затым затрымалі яшчэ двое, якія займаліся пастаўкай узрывчаткі: падчас вобыску ў аднаго з іх канфіскавалі яшчэ 7 кілаграмаў тратылу.

Упраўленне КДБ адмаўляецца паведаміць якія-небудзь звесткі аб чалавеку, які хацеў стаць пакупніком выбуховага рэчыва. Узбуджана крымінальная справа па артыкуле 213 часткі 1 КК Беларусі. ■

БелаПАН

# Беларусь экспартуе «секс па тэлефоне»

**Міхась КАРПОВІЧ**

**Саудаўская Аравія вырашыла адключыць аўтаматычную тэлефонную сувязь з Беларуссю і яшчэ з 20 краінамі свету, дзе дзейнічаюць службы «секса па тэлефоне».**

Гэтае рашэнне было прынятае дзяржаўнай тэлекамунікацыйнай кампаніяй Саудаўскай Аравіі пасля таго, як да яе сталі паступаць рахункі з каласальнымі сумамі за «гарачыя» тэлефонныя перамовы, якія, у асноўным, вядуць маладыя людзі і падлеткі. Але справа нават не ў грошах. Пад пагрозай апынулася маральная чысціня кожнага саудаўца.

З 1 кастрычніка звязвацца з гэтымі краінамі саудаўцы могуць толькі праз адмысловую аўтаматычную аперацыйную сістэму, якая фільтруе ўсе тэлефонныя званкі ў «падазроныя» краіны.

Як паведамляе расійскае радыё «Маяк», прыкладу Саудаўскай Аравіі ў бліжэйшы час паследуе і Кувейт. ■

# На Польшчу!

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Заўтра адбудзецца чарговы матч беларускай футбольнай зборнай у рамках адборачнага турніра да чэмпіянату свету 2002 года. Нашы футбалісты, якія месяц таму ў выдатным стылі перамаглі каманду Уэльса і цяпер знаходзяцца на самым версе адборачнай групы, едуць у польскі горад Лодзь, каб згуляць з яшчэ адным лідэрам, камандай Польшчы. Палякі месяц таму сенсацыйна разграмілі Украіну. Галоўны трэнер зборнай Беларусі Эдуард Малафееў спадзяецца ў гэтай гульні на перамогу.

На гульню ў Лодзь выязджае вялікая група падтрымкі – прынамсі паўтысячы балельшчыкаў. Будуць на футболе і некалькі дзесяткаў сябраў маладзёжных апазіцыйных арганізацыяў, якія падтрымаюць беларусаў бела-чырвона-белымі сцягамі. Карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ будзе прысутнічаць у Лодзі на гэтай вельмі важнай гульні. ■

# «Власти интересна только власть»

**Известный общественный деятель Беларуси, председатель Фонда «Детям Чернобыля» Геннадий Грушевой не получил благословения Центризбиркома для участия в выборах. Почему? Что это за знак?**
**На эти вопросы корреспонденту НАШАЙ СВАБОДЫ отвечает Г.Грушевой**

***— Геннадий Владимирович, для многих людей изъятие вас из кампании выборов явилось политической неожиданностью. Как вы оцениваете решение Центризбиркома по отношению к вам и Фонду?***

— Это крупный прокол организаторов нынешней избирательной кампании. Такое предвзятое отношение ко мне отраженно показывает, насколько сегодня власть боится проблем Чернобыля, боится людей, популярных у определенной части общества. 15 тысяч подписей, собранных за меня, — это подписи, в основном, тех, кто знает меня по чернобыльской работе. При всей условности власти верхней палаты, парламент – это высокая трибуна, с которой освещение проблем Чернобыля было бы более действенным. Для меня изменился бы статус: из разряда гуманитариев, общественных деятелей я перешел бы в разряд политических деятелей. Даже если в палате я персонально не смогу повлиять на принятие законов, зато как политик могу заявлять свои идеи и доносить состояние реальности до международного сообщества. Власть боится, что для известных людей парламент будет дополнительным каналом влияния на общественные настроения. Вот – главная причина. Формальная придирка несостоятельна: для моих 15 тысяч подписей те 3–4 подписи, которые инкриминировались сверх нормы «брака», составляют тысячную долю процента.

***— Чернобыльские проблемы гораздо более значимы, чем борьба с персоной или партийная борьба. Чернобыльские проблемы болезненно затрагивают жизни миллионов людей. Власть не может не учитывать, создавая казусы. Фонд «Детям Чеорнобыля» сегодня единственная организация, которая занимается чернобыльскими проблемами в полных границах уставной компетенции. Или государство хочет взять под тотальный контроль все нынешние и будущие проблемы Чернобыля?***

— У власти больше оснований бояться, что человек, который занимается в республике проблемами Чернобыля, может оказаться в парламенте хорошо видим и слышим в отношении вопросов о судьбе народа вообще. Фонд «Детям Чернобыля» – не единственная организация гуманитарного характера, которая серьезно занимается чернобыльскими проблемами. Но она единственная гуманитарная организация, единственный Фонд, который напрямую связывает все гуманитарные акции с реформированием общества, реформированием общественного сознания, единственный, который стоит на позициях высоких требований к государству по его отношению к людям, которые стали жертвами Чернобыля. Сегодня все, кто занимается чернобыльскими проблемами, понимают, что исключительно за счет зарубежной гуманитарной помощи эти проблемы не решить. И те действия государства, начиная с 1996 года, по демонтированию чернобыльских программ не компенсирует никакая гуманитарная помощь. Фактически в этом выражается вторая волна предательства народа. Мы вернулись в 1987–1989 годы. С точки зрения замалчивания объективной информации, ответственности государства за то, что происходит сейчас в Чернобыльской зоне.

Есть все основания открыто говорить, что тема геноцида вновь становится для нас актуальной, а все эти парадные съезды, все клятвенные обещания с трибуны, все эти 300-тысячные демонстрации силы – фактически маскируют то, что государство отказывается от своей важнейшей обязанности. Ни экономика, ни политика, никакая иная сфера деятельности государства не имеет смысла в ситуации, когда нация необратимо теряет свое здоровье. Сейчас рождаемость здоровых детей уменьшилась в целом по республике в три раза. По Чернобыльской зоне рождается менее 10% здоровых детей. Если нация переходит рубеж, когда более 30% населения рождаются больными, то нация обречена на вырождение. Это демографический закон. Мы уже практически перешагнули эту черту. Нужны самые радикальные экстренные действия со стороны государства.

Но со стороны государственной власти идет работа только по защите своего собственного имиджа, по укреплению собственных властных позиций. Нашей власти интересна только власть. Государство должно работать на здоровье нации, но не работает. Это моя позиция, ее я отстаиваю. Видимо, она очень не нравится наверху. Сейчас, после решений Центризбиркома, у меня есть много оснований обратиться к избирателям, к моему электорату и не только в том округе, где меня отлучили от участия в выборах. Люди могут думать: а почему вот этого человека не допустили к выборам? Почему чиновники без нас решили надо за него голосовать или не надо? Или мы сами не в состоянии разобраться? Люди могут думать: а будут ли вообще выборы 15 октября? Может быть они состоялись уже 14 сентября? Может уже все решено, уже все выбрано? И люди могут думать: за кого эта власть нас держит?

***— Демонстрирование ритуала отлучения вас от кандидатства по телевидению — безусловный знак, поданый властями. Ощущается ли в связи с выборами какое-либо прямое или косвенное давление на структуры Фонда? Говорят, что в Малиновке «душат» Молодежный центр Фонда?***

— Было бы странно, если бы такого не было. Всякий раз, с приближением какой-либо серьезной кампании, когда людям дается шанс что-либо выбирать, что-то решать, власть начинает свои противные действия. Ведь у нас власть назначает приказами всех – от заведующей детским садом до мэров и премьер-министра. Но депутатов власть при всем своем желании приказом назначить не может. Это единственное, что пока еще осталось в ведении людей. Чтобы влиять в этой сфере, власть использует единственный свой ресурс – не зарегистрировать. Человек может стать заложником народной воли – выберут или нет, когда власть допустит его к выборам. То есть приказом ЦИК определить – будешь ты среди кандидатов или нет. И власть эти приказы отдает. Кому она позволила, назначила приказом в список – вот из тех и выбирай.

Сейчас на Фонд уже нет такого тотального давления, которое мы испытали в 1996–1997 годах. Сегодня росчерком пера, пусть и самого золотого, «бацькоўскага», Фонд из общественной жизни не исключить. Зато мы хорошо ощущаем, в каких проектах власть старается выдернуть стул. Сегодня тактика иная — выдавливать нас из тех сфер, где мы активно общаемся. В упомянутой Малиновке действует наш Молодежный центр (около 1.000 человек). Он не ведет хозяйственной деятельности. Теперь нас предупредили: льготная аренда для Центра кончилась, будете платить по 10 долларов за квадратный метр. Мы арендуем 170 метров.

***— А сколько вы раньше платили?***

— По 1 доллару. В принципе, работа Центра – это работа по месту жительства. Центр наоборот должны были освободить от оплаты за аренду. Там по вечерам дети поют, рисуют, шьют, вышивают. Там бабушки собираются, контактируют с людьми инвалиды. Вообще, многие были недовольны тем, что надо отдавать гуманитарные деньги государству на оплату аренды. Теперь оно хочет взять в 10 раз больше. Все знают, что сумма нереальная. И через месяц—второй Молодежный центр можно будет закрыть за неуплату «на законных основаниях».

***— И это уже неотменимо?***

— Думаю, что окончательно все определится 15 октября. Если власть проведет тех, кто ей угоден, то далее она стесняться в методах не станет. Сейчас она удерживается от радикальных шагов, чтобы до 15 октября не слишком возбуждать избирателей резкими действиями против 1.000 детей Центра. Ведь у них мамы и отцы, соседи. А там еще живут переселенцы из Чернобыльской зоны, их дети ездят на оздоровление. 15 октября – Рубикон, который определит – или власть пойдет на компромисс, или, если выиграет выборы, предпримет радикальные меры, чтобы подорвать социальную основу нашей работы. ■

**Интервью брал Константин МАТУСЕВИЧ**



Маладзёжны цэнтр «Майстэрня будучыні» ў Маліноўцы (1 паверх)



Дзіцячы фестываль у Маладзёжным цэнтры ў Маліноўцы

## Помнік Шаўчэнку паставяць каля «Кіева»

**Кірыла ПАЗНЯК**

Зараз у Мінску ў двух месцах ляжыць камень, на якім напісана, што «тут паўстане помнік Тарасу Шаўчэнку». Гэта на рагу вуліцаў Старажоўскай і Варвашэні і ў раёне бульвара, што носіць імя гэтага ўкраінскага паэта. Але, здаецца, пасля некалькіх месяцаў спрэчак паміж міністэрствам культуры і сталічным гарвыканкамам, дзе ставіць помнік, рацыя ўсё ж пераважае.

Нагадаем, падораную ўкраінцамі бронзавую постаць кабзара мінскія гарадскія ўлады меліся ўзводзіць на перакрыжаванні Старажоўскай і Варвашэні, прычым ужо нават распрацавалі на тое спецыяльны план і вызначылі папярэднюю дату ўстаноўкі – 10 лістапада. Але слушна запратэставала экспертна-мастацкая рада па мануме нтальным мастацтве пры міністэрстве культуры, матывуючы пярэчанні перш за ўсё тым, што помнік Шаўчэнку да месца будзе выглядаць на аднайменным бульвары, але аніяк не мусіць стаяць на тэрыторыі колішніх Старажоўскіх могілак. Захаваныя на іх, дарэчы, вяліся ад сярэдзіны 17 стагоддзя па 50-ыя гады нашага.

Пратакол паседжання экспертна-мастацкай рады з такімі ўшчуваннямі быў прадстаўлены ў мінскую мэрыю, а таксама ва ўкраінскае пасольства і зямляцтвы. Падтрымаў рашэнне вядомых скульптараў і архітэктараў і асабіста міністр культуры Аляксандр Сасноўскі. Ён нават меў на гэты конт гутарку з мінскім мэрам Міхаілам Паўлавым.

У выніку днямі стала вядома, што сталічныя чыноўнікі грэх на душу ўсё ж не возьмуць. Помнік Шаўчэнку ў старажоўскае надмагілле не пратворыцца. У Мінгарвыканкаме вырашылі, што ён паўстане альбо на аднайменным бульвары, альбо каля новага будынка ўкраінскага пасольства, што ўзводзіцца на вуліцы Камуністычнай.

Прычым сёлета, як планавалася, свайго славутага суайчынніка ў бронзе ўкраінскі прэзідэнт Леанід Кучма, які прыедзе ў Мінск на саміт кіраўнікоў дзяржаваў СНД у снежні, не пабачыць. Узвядзенне помніка Шаўчэнку пераносіцца на наступны год. ■



# Польские страсти перед выборами

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ**

**Для Беларуси представляют прямой интерес воскресные выборы президента в Польше. Официальные итоги выборов станут известны несколько позже. Никто не сомневается в том, что большинство избирателей проголосует за нынешнего президента Александра Квасьневского. Но хватит ли ему голосов для того, чтобы выиграть у своих 12 соперников уже в первом туре?**

Совершенно неожиданно, буквально за две недели до выборов, ответ на этот вопрос перестал быть очевидным. Долгое время рейтинг Александра Квасьневского удерживался на уровне 60%. По данным последних опросов общественного мнения, которые провели за неделю до выборов несколько социологических центров, Квасьневский потерял более 10%, а его соперники тем временем поправили свою ситуацию.

Еще недавно Александр Квасьневский и его сторонники – посткоммунисты из Союза демократической левицы (SLD) – были настолько уверены в победе, что не прикладывали слишком больших усилий к избирательной кампании. Президент в горячие предвыборные дни, например, не смог отказать себе в удовольствии поболеть за польских олимпийцев в Сиднее. (Александр Квасьневский в свое время возглавлял Комитет по делам молодежи и физической культуре в правительстве ПНР, так что его визиты на Олимпиады уже стали традицией и носят, можно сказать, профессиональный характер).



И вот за две недели до выборов избирательные штабы кандидатов на президента получили возможность показать в публичном телевидении свои рекламные споты. Соперник Квасьневского в предстоящих выборах Мариан Кшаклевский, лидер свободных профсоюзов «Солидарность» и находящейся ныне у власти Избирательной акции Солидарность (AWS), воспользовался этим, чтобы «нанести удар» по президенту. В его рекламном фильме впервые были показаны кадры, снятые три года назад, во время поездки Квасьневского по стране. Тогда он прилетел вертолетом в сопровождении государственных мужей (шеф Генштаба, шеф службы безопасности президента и т.д.) в Калиш, где органы местного самоуправления возглавляют посткоммунисты, а следовательно, бывшие соратники президента по партии. В аэропорту его встречали толпы горожан, а встречу снимало местное телевидение. Злополучные для президента кадры фильма показывают, как выходящий из вертолета президентский министр, отвечающий за безопасность, Марек Сивец перекрестил присутствующих (посткоммунист!), при этом Квасьневский пошутил: «А поцеловал ли уже землю министр Сивец?», что тот поспешил исполнить.

Именно эта сцена и вызвала всеобщее возмущение. Дело в том, что так – осеняя всех знаком креста и целуя землю при выходе на плиту аэропорта – всегда приветствовал родную землю во время своих визитов Папа Римский Иоанн Павел II. Поляки восприняли поведение министра и самого президента в Калише как издевательство над Папой, который в католической Польше считается одним из самых великих сынов своей страны. Неуместное пародирование было расценено как святотатство, хотя произошло все это три года назад.

Страсти, вызванные этими кадрами, не улеглись и после того, как министр Сивец подал заявление об отставке, которое президент еще не подписал. Очень остро высказывались некоторые польские епископы, вплоть до того, что президент Квасьневский должен поступить также, как его министр.

Однако эта история не помогла Мариану Кшаклевскому, штаб которого обнародовал «компромат» на президента. Более всего выиграл на падении рейтинга Квасьневского другой кандидат Анджей Олеховский. Так что борьба за выход во второй тур будет весьма острой, и ее исход может определить буквально один голос. ■

